

## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Вынясеньнем, як лічаць многія, даволі мяккага прысуду закончыўся судовы разгляд крымінальнай справы былога дырэктара магілёўскага "Зеніту" Асіпенкі. Ён атрымаў 2 гады прымусовай працы "на аб'ектах народнай гаспадаркі". У дадатак, праўда, у яго канфіскуюць сядзібу. Трэба адзначыць, аднак, што Асіпенка сваёй віны "у крадзяжы дзяржаўнай маёмасьці і злоўжываньнях службовым становішчам" падчас слуханьня справы ў Цэнтральным раённым судзьдзе не прызнаў.

Магілёву не хапае грошай – такое сакрамэнтальнае прызнаньне зрабіў днямі намесьнік старшыні гарвыканкаму Ніканор Міхаловіч. Не хапае ўсім і заўсёды, тут гаворка пра іншае. Пра тое, што бюджэт не атрымае таго, на што разьлічваў. Менш сталі плаціць падаткаў дзяржаўныя прадпрыемствы і прыватныя прадпрымальнікі, бо ў іх зьнізіліся прыбыткі. Пераказваць вам чыноўніцкае тлумачэньне прычынаў такога становішча ня стану. Надакучыла пра ўсё гэта слухаць і чытаць. Адное толькі праўда ў гэтым "аналізе становішча": поўная эканамічная бездапаможнасьць цяперашняй улады.

Навіна прыйшла ў сыстэму адукацыі Магілёўшчыны. Прычым не традыцыйна – праз гімназію ці ліцэй, а праз прафтэхвучэльню №4. Яна рыхтуе электрамайстроў і здаўна лічыцца вельмі прэстыжнай. Цяпер менавіта камп'ютар будзе прымаць адказы абітурыентаў. Як лічыць кіраўніцтва вучэльні, такім чынам іспыты пройдуць больш аб'ектыўна і дазволяць маладым людзям лепей праявіць свае веды. Прынамсі, гэта адзін з сродкаў, каб пазьбегчы суб'ектывізму і, зразумела, хабараў. Ён здаўна выкарыстоўваецца на Захадзе і напэўна больш бясьпечны за любыя прэзыдэнцкія праверкі.

Мінакі, што шпацыруюць каля гатэлю "Магілёў", не маглі не заўважыць побач калёну шыкоўных аўтобусаў з Гішпаніі. Тыдзень прастаялі машыны, якія прыехалі да нас, каб нашых жа дзяцей адвесьці на адпачынак у сваю цудоўную краіну. Затрымка была выкліканая адмовай гішпанскай амбасады праставіць у дакумэнтах бясплатныя візы і нязгодай бацькоў дзяцей-турыстаў за гэтыя візы заплаціць. Неяк праблема ўсё ж вырашылася: там, дзе знайшлося па 200 даляраў (па чутках) за паездку аднаго юнага турыста, там знайшлася і дваццатка на візу.

Мэдыкі вобласьці радуюцца 10-ці машынам "хуткай дапамогі". Яны дастануцца Магілёву, Бабруйску, Быхаву, Чавусам, Крычаву і Бялынычам. Цяпер да кагосьці з хворых лекар прыедзе своечасова. Але – калі будзе паліва, калі будзе лекар, калі будуць лекі... Ды й машын такіх для вобласьці па падліках спэцыялістаў патрэбна 600.

Днямі кантралёры выкрылі фірму, што прадае ў вобласьці нелегальныя цыгарэты. Многія бабулькі такім чынам згубяць свой маленькі бізнэс. Вось іх сапраўды шкада, бо не ад добрага жыцьця гандлююць яны падробнымі цыгарэтамі. Не ад добрага жыцьця гэтыя цыгарэты набываюць тыя, хто ня можа зладзіць са шкоднай звычкай. Аднак у такую разважную "глыбіню" кантралёры не паглыбляюцца. На жаль, не паглыбляюцца і тыя, хто здольны толькі на стварэньне дзікага, а не цывілізаванага рынку. Можа таму гэтыя бабулькі, як дакор, ёсьць самыя злачынцы (па-мойму, я практычна працытаваў ці не самога Лукашэнку).

Міхаіл Дражын выказаў непакой тым, што ўраджай можа быць высокім. (Тут няма памылкі: менавіта так гэта прагучала на нарадзе "па сялу"). Прадукцыю, калі яе будзе шмат, цяжка будзе прадаць па тых цэнах, якія для яе ўстаноўленыя. Цэны сапраўды высокія, бо ўвабралі ў сябе ўсе ранейшыя "льготныя крэдыты", на падмурку якіх вёска праз сілу жыве і працуе. Як даходзіць да рэалізацыі прадукцыі – тут "дзяржаўны клопат" пра народны дабрабыт і праяўляецца.

Летась Кіраўскі раённы суд і яговая старшыня Надзея Чмара сталіся вядомымі на ўсю Эўропу. Менавітат тут судзілі і асудзілі Васіля Старавойтава. Аднак агулам судоў па "расьсьветаўскай справе" было значна больш. Днямі распачаўся яшчэ адзін, магчыма, з апошніх. На лаве падсудных цяпер былы галоўны бугалтар колішняга знакамітага калгаса Ніна Чубукова. Да яе ўжо пасадзілі 18 расьсьветаўцаў.

Здаецца, набліжаецца да заканчэньня рэканструкцыйная эпапея абласнога драматычнага тэатру. Засталося давесьці да ладу вонкавы выгляд і завяршыць унутраную аддзелку. Сказаць гэта, праўда, значна лягчэй, чым зрабіць. Але варта спадзявацца, што гэтым разам нішто не перашкодзіць будаўнікам завяршыць доўгачаканы аб'ект.

*Да сустрэчы,*
*Сымон Глазштэйн.*

# Дзьверы пакуль адчыненыя...

## Вынікі слуханьняў "беларускага пытаньня" у Бухарэсьце

*10 ліпеня ў Бухарэсьце Парлямэнцкая Асамблея АБСЭ на сваёй 9-й сэсіі прыняла Рэзалюцыю ў справе Беларусі. Супраць галасавалі расейская дэлегацыя, прадстаўнікі Узбэкістану, адзін прадстаўнік Украіны. Адзін дэлегат ад Чэхіі ўстрымаўся. Рэзалюцыя пакліканая да ўсталяваньня ў нашай краіне дэмакратычных нормаў.*

Падчас дэбатаў у Палітычным камітэце АБСЭ, беларускай дэлегацыі ад легітымнага Вярхоўнага Савету пры падтрымцы дэлегатаў ад Злучаных Штатаў Амэрыкі, Малдовы, Польшчы, Швэцыі, Швэйцарыі, Літвы ды іншых краінаў удалося зафіксаваць у Рэзалюцыі адносна маючых адбыцца парлямэнцкіх выбараў наступныя моманты:

***– наяўнасьць заканадаўства пра выбары, якое адпавядае эўрапейскім дэмакратычным нормам;***

***– доступ апазыцыі да сродкаў масавай інфармацыі, перадусім, электронных;***

***– роўныя і рэальныя перамовы паміж апазыцыяй і ўладамі;***

***– спыненьне перасьледу апазыцыйных лідэраў і шырокае інфармаваньне з боку ўладаў пра зьніклых палітыкаў.***

Амэрыканская дэлегацыя да таго ж ініцыянавала і правяла ў Рэзалюцыю папраўку пра тое, што да парлямэнцкіх выбараў у Беларусі можна ставіцца з даверам толькі пры ўмове выкананьня гэтых патрабаваньняў АБСЭ.

*Кіраўнік дэлегацыі Кангрэсу Злучаных Штатаў Амэрыкі, спадар* ***Крыстафэр Сьміт*** *наступным чынам пракамэнтаваў для беларускай службы радыё "Свабода" прынятую ў Бухарэсьце Рэзалюцыю Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ:*

– На задавальненьне, пераважная большасьць падтрымала Рэзалюцыю, якая вымагае аднаўленьня дэмакратыі ў вашай краіне, правядзеньня свабодных і справядлівых выбараў, свабоды СМІ. Гэта зьяўляецца вялікай перамогай дэмакратычных сілаў. Сярод амэрыканцаў, і асабліва сярод амэрыканскіх заканадаўцаў у Вашынгтоне, зацікаўленьне сытуацыяй у вашай краіне ўвесь час расьце. Мы салідарныя зь беларускім народам, мы ўважаем, што свабодная і дэмакратычная Беларусь нікому ня будзе несьці пагрозы, а можа толькі паспрыяць дабрабыту рэгіёна. Але цяперашні шлях Лукашэнкі вядзе да далейшай палітычнай і эканамічнай ізаляцыі краіны. Лічу, што беларускі народ на гэта не заслужыў. Так жа лічыць міжнародная цывілізаваная супольнасьць. Таму Рэзалюцыя – яшчэ адна спроба аказаць супольны дыпляматычны ўплыў на небясьпечную сытуацыю.

*Вынікі Асамблеі ПА АБСЭ для таго ж радыё пракамэнтаваў таксама намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі* ***Анатоль Лябедзька:***

– Вельмі важна, што Рэзалюцыя сфармулявала і прыняла ўмовы, пры якіх нашыя выбары могуць быць успрынятыя Захадам з даверам. Таму невыкананьне гэтых умоваў рэальна ставіць выбары паводле лукашэнкаўскага сцэнару пад пагрозу міжнароднага непрызнаньня. Аднак Асамблея пакідае для рэжыму адкрытыя дзьверы, калі яшчэ можна пасьпець выправіць справу.

***Паводле радыё "Свабода"***

## КАМАНДЗІРОВАЧНЫЯ СПРАВАЗДАЧЫ: ЛІТВА

# Такія месты проста так не пакідаюць...

*Нашаму карэспандэнту ўдалося тыдзень пабыць у Вільні – старажытнай беларускай сталіцы, а зараз – сталіцы незалежнай Літвы. Наведаньне абвеянага легендамі і мітамі, плёткамі і паданьнямі казачнага места пакінула (інакш быць не магло) незабыўныя і грандыёзныя па значнасьці ўражаньні, прымусіла шмат пра што падумаць, шмат што параўнаць, прааналізаваць.*

На запрашэньне менскага цэнтру "Супольнасьць" і Віленскага цэнтру грамадзкіх ініцыятываў "Дэмакратыя для Беларусі" каля дваццаці журналістаў з рэгіянальных незалежных выданьняў узялі ўдзел у літоўска-беларускім сэмінары "10 гадоў дэмакратычных рэформаў".

Прадстаўнікі "чацвертай улады" зь Берасьцейскай, Гарадзенскай, Менскай, Віцебскай і Магілёўскай вобласьцяў атрымалі цудоўную магчымасьць сустрэцца з палітычнымі і грамадзкімі дзеячамі суседняй дзяржавы, з журналістамі і выдаўцамі, з простымі людзьмі. Дзякуючы шматлікім і прадстаўнічым сустрэчам, асабістым назіраньням і добра падрыхтаваным экскурсам на тэлебачаньне, друкарню, у рэдакцыі газэтаў і шмат яшчэ куды, зьявілася добрая магчымасьць рэальна ацаніць жыцьцё Літоўскай Рэспублікі. А таксама вырашыць для сябе вялікую колькасьць пытаньняў і зафарбаваць вялікую колькасьць белых плямаў на мапе ведаў, што тычацца блізкай, і ў той жа час далёкай суседкі.

Блізкай таму, што мы неразрыўна былі зьвязаныя агульнай гісторыяй шмат вякоў. Далёкай таму, што суворая рэчаіснасьць павяла нас у абсалютна супрацьлеглых напрамках і сёньня лягчэй даведацца пра жыцьцё якой-небудзь Атлянты ці Брусэля, чым пра будні Вільні.

Як ужо казалася вышэй, уражаньні, якія засталіся пасьля сустрэчы з "паннай Вільняй", можна назваць надзвычай значнымі. Старажытныя вузкія вулачкі, дзясяткі галавакружэльных касьцёлаў і цэркваў, чырвоныя чарапічныя дахі, прывабны эўрапейскі выгляд, фантастычныя крамы і невялічкія пабы на кожным кроку, чысьціня й ветлівыя, прыгожа апранутыя гараджане... Гэты зьнешні лоск падштурхоўвае да адной толькі думкі – няма лепшага для жыцьця места на сьвеце, чым Вільня. Але калі паспрабаваць разабрацца больш дэтальна, заглянуць, так бы мовіць, за прыгожую какетлівую фіранку, то становіцца зразумелым – ня ўсё так адназначна.

Існуюць пэўныя цяжкасьці і з прыватызацыяй, і зь вяртаньнем земляў былым гаспадарам, і з аплатай кватэры (плата вельмі вялікая), і з прыцягненьнем заходняга капіталу, і з існаваньнем сельскіх жыхароў, і зь безпрацоўем... Словам, праблем усіх не пералічыць.

Аднак, адзінае, што можна сказаць, нават пасьля асэнсаваньня ўсёй праблематычнасьці шляха разьвіцьця, абранага Літвой: "Правильной дорогой идёте, товарищи!" Судзіце самі: сярэдні заробак па краіне – 280 амэрыканскіх даляраў, мінімальны – 108. Няхай трэба шмат плаціць за кватэру, няхай дорага каштуюць тэлефонныя размовы й квіткі ў тралейбусе, але ёсьць пэрспэктыва. Ёсьць магчымасьць, калі ты не гультай і абібок, зарабляць і 500 і 1000 і значна больш. І патраціць гэтыя грошы ёсьць дзе. Хочаш – у сваёй краіне, а ня хочаш – едзь у Нямеччыну ці Галяндыю, бо ня трэба ніякіх візаў. Ёсьць цудоўная магчымасьць самарэалізавацца на тым ці іншым попришчы, нават калі ты "не хапаеш зорак зь неба".

Што тычыцца свабоды слова, выбараў, ці іншых дэмакратычных інстытутаў у Літве, то тут практычна няма ніякіх праблем. Дэмакратыя нагадвае стары, добра адладжаны гадзіньнікавы мэханізм – збояў практычна няма, ды і быць ня можа, таму што на варце стаяць мясцовае самакіраваньне ды Сэйм, якія рэальна абраныя народам і прадстаўляюць яго інтарэсы. Дарэчы, гэтай восеньню ў літоўцаў падчас выбараў у Сэйм будзе магчымасьць выказацца "за" ці "супраць" той палітыкі, якую праводзяць сёньняшнія ўлады. І слова народа будзе вызначаць, ці сапраўды правільным шляхам ідзе Літоўская Рэспубліка.

Так здарылася, што мы мала ведаем адзін пра аднаго. Так здарылася... Але, калі ёсьць на сьвеце нейкая вышэйшая справядлівасьць, то рана ці позна мы зноў працягнем рукі адзін аднаму. Вось толькі мы – беларусы – дарэмна згубілі аж дзесяць гадоў, у той час, як нашыя суседзі скарысталі іх з плёнам для сябе.

***А. КУЗЬМІН***
***Фота аўтара***



